ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1758) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 21 СТУДЗЕНЯ 1990 г. ЦАНА 400 зл



НАДНАРАЎЧАНСКІ ПРАСТОР. Фота Я. Целушэцкага.




(Заканчэнне)

Сцэна і літаратурная праца неадступна цягнуць Ф. Аляхновіча да сябе. Даўшы ў трохактавай п'есе „На Антокалі" знаёмае яму асяроддзе дробнага віленскага мяшчанства, а ў двухактавай п'есе „На вёсцы" накідаўшы ідэалізаваны вобраз вясковага беларускага жыцця, Аляхновіч праз двухактавую п'есу „Бутрым Няміра" перайшоў да драматызавання беларускіх гістарычных апавяданняў, а затым і народных казак, як у трохактавай п'есе „Базылішак" ды ў вядомай аднаактоўцы „Чорт і баба". Адначасова ён малюе цяжкі быт нашага гарадскога жыхарства ў чатырохактавай п'есе „Манька" і жыццё рабочых у двухактоўцы „Каліся". Новыя тэмы апаноўваюць усю яго істоту. Ён кідае дзіцячы прытулак, зноў вяртаецца ў Вільню, працуе ў пажарнай камандзе, зноў піша і накідвае новыя планы. Нарэшце, пачуўшы ў красавіку 1918 года аб шырокай беларускай працы ў Мінску, ён у чэрвені таго ж года кідае Вільню, якая не мела магчымасці падтрымаць яго як артыста і драматурга, ані выдаць яго творы. Пераапрануўшыся за фурмана, ён прабіраецца праз лінію старога нямецка-рускага фронту і пехатою, босы і абарваны, з пакалечанымі да крыві нагамі, пасля васьмідзённага падарожжа з'яўляецца ў Мінску.

У Мінску ў той час добра працаваў Дзяржаўны беларускі тэатр, які стварыўся з тэатральнае групы „Таварыства беларускай драмы і камедыі", закладзенае 19 мая 1917 года, на чале з рэжысёрам Фларыянам Ждановічам, драматургам Уладзіславам Галубком і Усеваладам Фальскім. Прыход Францішка Аляхновіча ў Мінск унёс у працу тэатра вялікае ажыўленне. З'явіўся новы артыст, рэжысёр і драматург, які прынёс новы рэпертуар, складзены са сваіх уласных п'ес, яшчэ невядомых у Мінску. Ужо першая пастаноўка Аляхновіча (ён выбраў сваю гістарычную п'есу „Бутрым Няміра") паказала, які моцны талент Заходняй Беларусі загасцяваў у Мінску. Аўтар сам выканаў галоўную ролю баярына Бутрыма Няміры і сваёй сапраўднай мастацкай ігрой зачараваў усіх гледачоў. Невялічкая п'еса зрабіла дужа моцнае ўражанне на ўсіх прысутных. Беларускае грамадства горача вітала таленавітага драматурга.

Маральная падтрымка беларускага грамадства і грашовая падтрымка Таварыства „Бацькаўшчына" надалі Францішку Аляхновічу новыя сілы. Ён заканчвае ў Мінску сваю аднаактоўку „Чорт і баба", якая, як вясёлы вадэвіль, адразу заваявала беларускія рабочыя клубы і вёску. Затым ён піша трохактавую драму „Страхі жыцця". Прэм'ера гэтай п'есы ў тым жа 1918 годзе ў Мінску выклікала буйныя спрэчкі ў беларускім грамадстве, бо ўся п'еса насычана была шматлікімі смерцямі і трагічнай бязвыхаднасцю абставін. Аўтару закідалі, што ён згусціў фарбы. А тым часам, пакуль ішлі спрэчкі аб „Страхах жыцця", Францішак Аляхновіч паспеў напісаць ужо і паставіць новую п'есу, — двухактавую драматычную замалёўку „Дзядзька Якуб" ды арганізаваў сваю ўласную трупу ў Мінску, для якой дапоўніў п'есу Янкі Купалы „Паўлінка" яшчэ адным актам, які названы быў „Заручыны Паўлінкі".

Вясной 1919 года Францішак Аляхновіч вяртаецца ў Вільню і выдае ілюстраваны часопіс „Беларускае жыццё", а таксама працуе над тэатральнымі пастаноўкамі. Аднак савецка-польская вайна 1919—1920 гадоў, калі Вільня некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі, затым часовая літоўская ўлада і новы захоп Вільні польскімі войскамі генерала Жалігоўскага — няспынна руйнавала беларускае

(Працяг на стар. 6)

## ПРОСІМ ПРАБАЧЭННЯ

# Posłanie posłów i senatorów OKP

*Biuro prasowe Obywatelskiego Klubu Parlamentarnego przekazało PAP posłanie sygnowane przez 52 posłów i senatorów OKP. Oto jego treść:*

## Do naszych braci:

Białorusinów, Czechów, Litwinów, Niemców, Słowaków, Ukraińców, Żydów i do wszystkich innych narodów zamieszkujących Polskę — naszą wspólną ojczyznę — „ojczyznę nie tylko Polaków".

Powodowani potrzebą serca, nawiązując do wypowiedzi niektórych uczestników — podczas „otwartego studia" w tv w dnia 8/9 grudnia ub.r. poświęconego zagadnieniom współżycia z mniejszościami narodowymi, zwracamy się do was prosząc o wybaczenie tego incydentu.

Czujemy ból i oburzenie, że żyją wśród nas ludzie, którzy tak myślą i czują jak występujący w programie niektórzy nasi rodacy.

Jest nam obca wszelka nienawiść do człowieka mówiącego innym językiem, inaczej oddającego cześć Bogu czy czującego więź z kulturą narodu, z którego się wywodzi. Mamy świadomość wzajemnego przenikania się naszych kultur i jesteśmy wam, jako przedstawicielom tych narodów wdzięczni za dobra, które na przestrzeni historii wnieśliście do naszej kultury.

Pamiętamy, że dawna Rzeczpospolita była owocem pracy i dobrem najwyższym wszystkich narodów ją zamieszkujących.

Dziś ze zgrozą stwierdzamy, że obok poszerzającego się obszaru wolności zdarza się również wśród nas nienawiść. Największe nasze zdziwienie wywołuje fakt, że są wśród tych ludzi i tacy, którzy nie zauważają sprzeczności własnych poglądów z ideałami chrześcijaństwa, do którego się przyznają, a któremu obca jest nienawiść i egoizm.

Jesteśmy świadomi naszej wspólnej trudnej historii narodów Europy Środkowowschodniej, gdzie nieraz z powodzeniem posiewem nienawiści próbowano nas poróżnić, utrudniając nam

(Працяг на стар. 2)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## БАС ВОДГУКІ II З'ЕЗДА

16.XII.1989 г. у Беластоку адбыўся II З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў. Ніжэй змяшчаем пастановы з'езда.

1. Падрыхтаваць праграму гаспадарчай дзейнасці ў форме фундацыі, суполкі, кааператыва.

2. Арганізаваць фестываль музыкі беларускай моладзі ў Гарадку — „БАСовішча".

3. Дапамагчы ў рэдагаванні новага польскамоўнага часопіса, прысвечанага беларускім справам.

4. Выдаваць беларускамоўны квартальнік БАСа „Сустрэчы".

5. Арганізаваць гістарычна-этнаграфічныя курсы на Сакольшчыне.

6. Выдаць касету з песнямі для дзяцей.

7. Прадаўжаць і дасканаліць дагэтуль арганізаваныя мерапрыемствы (рэйды, сустрэчы: ліцэі — БАС, Народны універсітэт, Купалле, супрацоўніцтва з Брацтвам праваслаўнай моладзі).

8. Прызнаць ганаровае членства БАСа Спадару Юрку Латышонку.

*У Новым годзе беларусам Беласточчыны і ўсяго свету жадаем мацнейшай веры ў лепшую будучыню.*

*Беларускае аб'яднанне студэнтаў*



*Галоўная рада БАС. Стаяць (злева направа): Міраслаў Урбановіч, Юрка Хмялеўскі, Барбара Кучынская, Анна Матысюк, Веслаў Харужы, Міраслаў Пякарскі, Мар'ян Семаковіч. Сядзяць (злева направа): Мікола Ваўранюк, Андрэй Малашкевіч, Яўген Вапа, Алесь Карпюк, Уладзімір Пац.*

## Нававыбраная Галоўная рада БАС

1. **Яўген Вапа** — старшыня — V курс гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта.
2. **Міраслаў Пякарскі** — намеснік — V курс Беластоцкай палітэхнікі.
3. **Міраслаў Урбановіч** — намеснік — III курс Сельскагаспадарчай акадэміі ў Ольштыне.
4. **Барбара Кучынская** — сакратар — IV курс Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.
5. **Анна Матысюк** — скарбнік — IV курс юрыдычнага факультэта Варшаўскага універсітэта.
6. **Мікола Ваўранюк** — член — IV курс гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта.
7. **Юрка Хмялеўскі** — член — V курс Беластоцкай палітэхнікі.
8. **Веслаў Харужы** — член — V курс гістарычнага факультэта філіяла Варшаўскага універсітэта.
9. **Аляксандр Карпюк** — член — IV курс гістарычнага факультэта філіяла Варшаўскага універсітэта.
10. **Уладзімір Пац** — член — III курс Сельскагаспадарчай акадэміі ў Ольштыне.
11. **Мар'ян Семаковіч** — член — II курс Варшаўскага універсітэта.

## РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ

1. **Лена Глагоўская** — старшыня — навуковы супрацоўнік у Гданьску.
2. **Алег Латышонак** — навуковы супрацоўнік у Кракаве.
3. **Славамір Іванюк** — навуковы супрацоўнік у Беластоку.
4. **Марэк Аўгустынчык** — III курс юрыдычнага факультэта філіяла Варшаўскага універсітэта.
5. **Юрка Сульжык** — I курс гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта.

## ПЕРАСТАЦЬ КРЫЧАЦЬ, А ПАЧАЦЬ ПРАЦУ

**Інтэрв'ю са старшынёй БАСа Яўгенам Вапам.**

— Віншую з паўторным выбарам на старшыню БАСа. Выбар быў амаль аднагалосны. Ці цэніш цябе давер з боку БАСаўцаў? І наогул, ці цяжка быць старшынёй такой арганізацыі?

— Я таксама віншую з цябе з выбарам на сакратара Галоўнай рады БАСа і, думаю, ты сама ведаеш, ці цяжка спаўняць даручаныя абавязкі. Зразумела, давер цешыць, але адначасова ўзрастае адказнасць за ўсё, што робіць наша арганізацыя. Абавязкаў усё больш, а часу не хапае.



— Разумею, што старшынёй быць зусім нялёгка. Аднак вынікі выбараў пацвярджаюць, што ў мінулым годзе ты добра справіўся са сваімі абавязкамі. Як можаш ацаніць дзейнасць БАСа і адначасова сваю праз год ад рэгістрацыі?

— Найважнейшым лічу заіснаванне нас як арганізацыі ў беларускім грамадстве Беласточчыны. Здаецца, што назва БАС і яго дзеянні былі відавочнымі ў нашым асяродзі. З перспектывы гэтага года відаць таксама наша недасспеласць да некаторых спраў, асабліва палітычнага значэння. Аднак існаванне нашай арганізацыі патрэбнае, хаця чуваць галасы, каб мы лепей развязаліся і, як раней, „нарабілі шуму". Гэтага хапала, калі не хацелі нас зарэгістраваць. Сёння такія выказванні проста смешныя. Заўсёды лягчэй руйнаваць, чымсьці будаваць. Калі мы атрымалі магчымасць дзейнічаць, дык трэба перастаць крычаць, а пачынаць нармальную, цяжкую, штодзённую працу. Аб чым шмат людзей забывае.

— Ты гаварыў пра нашу палітычную няспеласць. Ці БАС як студэнцкая арганізацыя павінна займацца палітыкай?

— Мы ў Польшчы з'яўляемся меншасцю. І калі ў статуце БАСа маем запіс, што мэтай нашай дзейнасці з'яўляецца пашырэнне грамадскай актыўнасці сярод беларускіх студэнтаў, гэта ўжо ёсць палітыка. З другога боку, калі мы бачым, што аб нашым лёсе вырашалі і далей хочуць вырашаць іншыя, наш абавязак — абараняцца. І тут вернемся да папярэдніх выказванняў, калі я гаварыў аб нашай нацыянальнай няспеласці. Прыкладам хай будзе вельмі слабая падтрымка з боку студэнтаў у час выбарчай кампаніі ў Сейм і Сенат у чэрвені 1989 года, а таксама раней — святкаванне ў Беластоку 71-ай гадавіны БНР. Пабачылася тады, што існуе абыякавы падыход да такіх важных падзеяў. Другая справа — гэта прычыны, якія цэлымі дзесяцігоддзямі складаліся і складаюцца на такую сітуацыю. І таму БАС павінен заняцца нацыянальнымі і палітычнымі справамі. Перш за ўсё, дзеля паяўлення сярод нас саміх людзей, якія не будуць адчуваць сябе прыніжанымі перад іншымі нацыямі, а таксама зразумеюць патрэбу хаця малой ахвярнасці ад сябе самога для нацыянальнай справы. Бо, пакуль што, большасць мерапрыемстваў, больш ці менш сур'ёзных, адбываецца толькі дзеля кансумпцыі прысутных, а без ніякай, хаця найменшай іхняй рэфлексіі (напр., атрасіны, аб чым дарэчы пісалася ў папярэдняй „Прысутнасці").

— Так, гэта, здаецца, найбольш балючая праблема — не-

(Працяг на стар. 4)

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніцы цэнтральнага агляду дэкламатарскага конкурсу для вучняў падставовых школ — Марта і Эля з Храбалоў.
Фота Я. Чэрнякевіч

## Пішуць школьнікі

### ШКОЛЬНЫ КОНКУРС

19 снежня ў Беларускім ліцэі адбыўся школьны этап дэкламатарскага конкурсу пад лозунгам „Беларусь". У камісіі былі: Янка Мордань, Я. Апалінская — настаўніца і вучаніца 4 класа Аня Высоцкая. Прыняло ўдзел 17 вучняў з усіх класаў. Конкурс прайшоў на высокім узроўні. Дэкламаваліся творы вельмі розныя. І слухачы, і камісія слухалі кожнага з цікавасцю і ўвагай. Камісія мела што рабіць, каб вызначыць найлепшых. Пасля абмяркоўкі выступленняў у камісіі, Янка Мордань аб'явіў вынікі конкурсу:

І месца — Веранікa Беглюк, вучаніца 3 класа.

ІІ месца — Яцэк Пракапюк, вучань 3 класа, і Бажэна Самосюк, вучаніца 4 класа.

ІІІ месца — Аня Мінкевіч, Галіна Семянюк і Андрэй Ярмоцік з 4 класа, а таксама Мірэк Здрайкоўскі і Тамаш Тапалеўскі з 3 класа.

Адзначана было добрае выступленне Марыі Аліфер з І класа і Зосі Малмышка з 2 класа.

Усе вучні, якія занялі добрыя месцы, потым удзельнічалі ў цэнтральным аглядзе, які адбыўся ў Беластоку 23 снежня.

**Іра Негярэвіч, вуч. І класа. Беларускі ліцэй у Бельску.**

## Вершы Віктара Шведа

### ВЫКЛІКАЮЦЬ МАМУ

Свайго брата Колю
Запытала Валя:
— А цябе у школе
Сёння выклікалі?

— Сёння, дарагая,
Пэўна будзе драма.
Раптам выклікаюць
Не мяне, а маму.

### КАТАЎСЯ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ

— Ты ўчора хуліганіў недзе? —
Настаўнік запытаў Рыгора.
— Не хуліганіў. Брат мой Федзя
Учора быў паважна хворы.

— А можа ў хаце ты застаўся,
Каб палячыць там брата Федзю?
— Ды не, я цэлы дзень катаўся
На Федзевым веласіпедзе.

### НАЙБОЛЬШ БАЛІЦЬ У ШКОЛЕ

Прыйшла з сімулянтам-сынам
Да лекара матка.
— Дзе найбольш баліць, скажы
нам,
Мілае дзіцятка?

А на гэта праз хвілінку
Гарэзлівы Коля
Адазваўся без запінкі:
— Найбольш баліць у школе.

### НАСТРОЙШЧЫК ПІЯНІНА

Звяртаецца да бацькі Ніна,
Прыйшоў ён з працы акурат:
— У нас настройшчык піяніна
Чакае ўжо на твой загад.

— Скажы, што мы не выклікалі,
Тым больш калі ямо абед.
Настройшчык адазваўся
з жалем:
— Прыслаў мяне тут ваш сусед.

### СТАРАЯ СКРЫПКА

Стаўся малы Архіпка
Вельмі шчасліванькі сягоння.
Яму старую скрыпку
Падараваў дзядуля Лёня.

Архіпкаў падарунак
Тата лагодна ўзяў у рукі.
— А дзе ж тут, дзетка, струны?
— Без струн мне хопіць
да навукі.

### ЛЮДСКІ САБАКА

Скардзіцца суседу Якаў:
— Глянь, вось над штанамі
здзекі,
А казаў, што твой сабака
Не пакрыўдзіць чалавека.

Усміхнуўся толькі Віця,
Хоць быў смех не да спадобы:
— Пацярпелі нагавіцы,
Гэта ж, дружа, не асоба.

### ВОЗЕРА НАМ ЗАМЯТАЕ

Цёплай летняю парой
Тата адпачыць прыехаў.
Над азёрнаю вадой
Столькі гоману, уцехі.

— Тата, глянь, — крычыць
Іван, —
Прыгажосць кругом такая!
Там у лодцы нейкі пан
Возера нам замятае.

Алесь Якімовіч

# ЛЯНОТА

### КАЗКА

Жыў на свеце хлопчык Алік. Не вялікі і не маленькі. Так сабе, сярэдненькі. З кірпатым носікам, абсыпаным рабаціннем, з упартым чубам, які не хацеў прычасацца, са смяшынкамі ў хітрых вачах.

Любіў той хлопчык ездзіць на аўтобусах — з білетам і без білета... Любіў кіно — добрае і дрэннае. Любіў цукеркі.

А чаго не любіў? Усяго іншага. Нават памыцца і прычасацца як след ленаваўся. Так нямытым ды лахматым і хадзіў у свой чацверты „Б" клас.

Маці і крычала на яго, і гразіла, і прасіла:

— Сядзь ты, Алік, за кніжку. У цябе ж адны двойкі ды тройкі.

— Ат, не хочацца.

— Падмяці, Алік, пакой. Глядзі, вунь, як насмяціў, майструючы свае пісталеты.

— Ат, не хочацца.

— Схадзі, Алік, у краму па хлеб.

— Ат, не хочацца...

— Ах ты, лянота мая горкая! — уздыхала маці і сама падмятала пакой, хадзіла па хлеб і рабіла ўсё, што трэба рабіць дома.

Настаўніца Аліка дакарала, кожны дзень на яго скаргі пісала. А яму хоць бы што. Толькі большая злосць на ўсіх разбірала.

Аднойчы Алік позна варочаўся дахаты — загуляўся з сябрамі. Чуе — нехта енчыць у цёмным закутку двара.

Алік спыніўся.

— Хто там? — пытаецца.

— Я — Лянота, — пачуўся тонкі піскнявы галасок.

— А што ты тут робіш?

— Нічога. Мяне выкінулі.

— Хто?

— Валерка. Не хоча больш дружыць са мною. Вазьмі ты мяне.

— А дзе я цябе падзену? Маці мне не дазваляе цягаць у хату рознае ламачча.

— Я — не ламачча, — пакрыўдзілася Лянота. — Я табе памагаць буду.

— Якая ад цябе помач?

— А якую хочаш?

— Вучыцца за мяне будзеш?

— Не. Вучыцца не хачу. Я — Лянота.

— Пасцель засцілаць, пакой падмятаць?

— Не, — запішчала Лянота. — Я не люблю ніякай работы.

Усміхнуўся Алік і кажа:

— Выходзіць, ты — мая сястра. Мама мяне таксама лянотай заве.

— Але ж, твая сястра, — падхапіла сапраўдная Лянота. — Толькі я — не простая сястра, а — чароўная! Не пакідай мяне ў бядзе, брат мой! Я буду дружыць з табою. На ўсіх тваіх ворагаў дрымоту ды ляноту наганяць буду.

— О, гэта добра! — згадзіўся Алік. — А дзе ж я цябе трымаць буду?

— Дзе хочаш. Я — маленькая. Шмат месца не займу. Пасадзі мяне ў якую-небудзь скрыначку, і я там буду жыць. Карміць і паіць мяне не трэба. А калі табе спатрэбіцца мая дапамога, вазьмі скрыначку ў рукі і скажы: „Лянота, Лянота, нагані на таго і таго дрымоту". І ўсё будзе зроблена. Толькі глядзі, не адкрывай скрыначкі: я не люблю святла...

Схапіў узрадаваны Алік сваю новую сяброўку, прынёс дахаты і сунуў у пенал.

II

Назаўтра Алік зарабіў чарговую двойку па мове. На перапынку сябры напалі на яго:

— Дакуль гэта будзе, Алік? Ты ганьбіш нас!

Узлаваўся Алік на сяброў.

(Працяг на стар. 10)

## НАВУЧЫЦЕСЯ СПЯВАЦЬ

# КАЛЫХАНКА



Словы Генадзя Бураўкіна

Музыка Васіля Раінчыка

Доўгі дзень,
Цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень,
Сонны цень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы.
Змоўклі птушак галасы.
І буслы ў гняздо схавалі
Свае доўгія насы.

Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.
Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.

Пакрысе
На расе
Патухаюць зоркі-сплюшкі.
Гулі ўсе,
Казкі ўсе
Пахаваны пад падушкі.
Спяць і мышкі і стрыжы.
Спяць машыны ў гаражы.
Ты таксама
Каля мамы
Ціха-ціхенька ляжы.

Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.
Баю-бай, баю-бай,
Разам з намі засынай...

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

Добры дзень, „Зорка"! Піша вам чытачка ваша Вольга Васкабовіч з горада Мар'іна Горка ў БССР. Мне вельмі падабаецца ваша газета. І як толькі я бачу яе на прылаўках „Саюздруку" я зараз жа яе куплю. Я ведаю, што ў рубрыцы „Пазнаёмімся" вы друкуеце шмат адрасоў. Тады я вырашыла напісаць вам, бо я хачу перапісвацца з сябрамі з Польшчы. Пішу да вас з вялікай надзеяй, што з вашай дапамогай мне ўдасца знайсці новых сяброў, бо вы надрукуеце мой адрас, і да мяне нехта напіша.

Мне 15 гадоў. Я вучуся ў сярэдняй школе. Люблю чытаць кнігі, збіраю маркі, цікаўлюся беларускай гісторыяй. Мой адрас: **БССР, 222810, г. Мар'іна Горка, Мінскай вобласці, вул. Будзённага, 13. Васкабовіч Вользе.**

* * *

**БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 72, кв. 148. Перапечынай Наташы (7 клас).**

* * *

**БССР, 225710, г. Пінск, вул. Альхоўскіх, 8, кв. 9. Андрух Юліі (5 клас).**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Якая гэта ягада?

— Чорная.

— А чаму чырвоная?

— Бо зялёная.

* * *

— Што з табою, Юрка? Чаму ты спіш на ўроках? — пытаецца настаўнік.

— Не магу нічога зрабіць. Гэта ўва мне вялікі талент дрэмле.

* * *

Неяк Кастусь не паслухаўся маму і быў за гэта пакараны.

— Ты чаго плакаў? — пытаецца ў Кастуська тата.

— А-а, гэта мы з тваёю жонкаю разышліся ў поглядах.

## малюнкі школьнікаў



Зімовыя гульні. Маляваў Андрэй Дзмітрук, вучань III класа са школы ў Храбалах.

# ЛЯНОТА

(Працяг са стар. 9)

Узяў з партфеля скрыначку, зайшоў у цёмны куток калідора ды прашаптаў:

— Лянота, Лянота, нагані на чацверты „Б" клас дрымоту.

— Добра, будзе зроблена, як ты пажадаў, — прапішчаў знаёмы галасок.

Празвінеў званок.

Алік вярнуўся ў клас. Бачыць — усе яго сябры сядзяць за партамі і пазяхаюць. Ды так, што аж слівіцы трашчаць. А іншыя ўжо спяць.

Алік сеў за сваю парту і цікуе, што будзе далей.

У клас увайшла настаўніца.

— Што гэта? — здзівілася яна. — Чаму вы пазяхаеце?

— Спаць хочацца, — адказалі тыя, хто яшчэ не заснуў.

— А што вы ўночы рабілі?

— Спалі...

Пакуль настаўніца распытвала, заснулі і ўсе астатнія вучні чацвертага „Б" класа.

Настаўніца прысела за сталом, дастала класны журнал.

Але тут на яе напала такая дрымота, што яна адразу асунулася на спінку крэсла і соладка заснула.

Алік узрадаваўся: „Малайчына Лянота! Цяпер урока не будзе і новай двойкі я не зараблю". Ён дастаў з партфеля кніжку „Прыгоды Мюнхгаўзена", усміхнуўся сам сабе і пачаў чытаць.

Кончыўся ўрок. На калідоры зазвінеў званок. І клас заварушыўся.

Першай прачнулася настаўніца. „Ай-яй, — спалохалася яна. — Гэта ж, мусіць, я незнарок задрамала на ўроку". І, моцна засаромеўшыся, выйшла з класа.

Услед за ёю пабеглі і вучні.

### III

Прыйшоў Алік дадому. Маці глянула ў сшытак і ахнула:

— Зноў двойка!

І давай крычаць на Аліка:

— Гультаіна ты! Абібок! Вось скажу бацьку — няхай зніме на цябе папругу.

Пад вечар бацька вярнуўся з работы. Маці сказала яму пра новую Алікаву двойку.

— Хоць бы раз ты насварыўся на яго, стары! — крычала маці. — Што ў цябе, папругі няма?

Бацька быў у той дзень нявясёлы — нешта не ладзілася ў яго на рабоце. І ён сапраўды зняў папругу ды злёгку хвасянуў Аліка ніжэй спіны.

Алік заенчыў на ўвесь дом.

— Глядзі ў мяне! — сказаў бацька. — Калі яшчэ раз прынясеш двойку, то заробіш не такой папругі.

Крыўда агарнула Аліка — свет няміл яму зрабіўся. Дастаў ён цішком скрыначку з партфеля і паклікаў сваю сяброўку:

— Лянота, Лянота!

— Што з табою, братка? — азваўся голас Ляноты. — Ты, здаецца, плачаш?

— Ага, — адказаў Алік, выціраючы кулаком вочы.

— Чаго ж ты, братка, плачаш? Чаму горкія слёзы льеш?

— Як жа мне не плакаць? Як горкіх слёз не ліць? Усе на мяне крычаць, усе крыўдзяць. Увесь свет супроць мяне выступіў.

— Добра, — сказала Лянота. — З гэтай мінуты ты будзеш жыць спакойна: свет цябе крыўдзіць не будзе.

Толькі сказала так Лянота, як тут жа ў хаце патухла святло.

Алік пачакаў крыху — думаў, бацька направіць пробкі. Ды бацька чамусьці сядзіць у крэсле і не варушыцца. Маці таксама дрэмле на другім крэсле са шівам у руках.

Алік выйшаў на двор. Хацеў з сябрамі пагуляць. Ды на цёмным двары нікога не відаць.

Куды ж падзеліся яго сябры? Алік, вядома, не думаў, што Лянота іх пакарала разам з усім светам.

Выйшаў Алік на вуліцу. А там — адна цемень. Ні людзей, ні машын. Дзіва!

Вярнуўся Алік дадому. Знайшоў агарак свечкі. Запаліў. Успомніў, што даўно ўжо есці хочацца. Адчыніў шафку. А ў ёй — хлеба ні крошкі. Толькі масла ляжыць у сподачку. Паспрабаваў — нясмачнае масла без хлеба!

„Можа схадзіць у краму?" — падумаў галодны Алік. Падышоў да крэсла, на якім драмала маці.

— Мама, дай грошы. Я па хлеб збегаю.

Маці толькі прамармытала нешта і зноў заснула.

Будзіць бацьку Алік не адважыўся, каб зноў папругі не зарабіць. Знайшоў сам матчыну сумку, а ў ёй — некалькі медзякоў. Пералічыў: хопіць на булку, яшчэ і застанецца. Апрануўся і кулём кінуўся на двор.

Прыбег у краму, глядзіць — замок на дзвярах. Так з нічым і вярнуўся дадому.*

Заканчэнне ў наступным нумары



·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·

**Не адрываючы алоўка ад паперы, паўтары гэты малюнак.**



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка"

